© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №16-17(1-2), 2011

Андрэй Казакевіч

# Беларускі слоўнік плагіяту: copy + paste

Шынкароў, В. В., Раманава, С. П. (2011).
*Беларускі палітычны слоўнік*. Мінск: Адукацыя і выхаванне. 576 с.

Жанр слоўніка дастаткова складаны для рэалізацыі, але пры гэтым вельмі важны. Удала складзены слоўнік не толькі дазваляе сістэматызаваць веды ў межах дысцыпліны, але і ўсталёўвае тэрміналогію, вызначаючы значэнні і ўжыванне словаў. Усё гэта можа істотна ўплываць на дысцыпліну, інтэрпрэтацыю навуковых падыходаў і нават на цікавасць да даследавання асобных сфераў. Праўда, здараецца гэта ў найбольш удалых выпадках, звычайна эфект больш сціплы, але ўсё адно важны з розных пунктаў гледжання.

У гэтых адносінах выхад «*Беларускага палітычнага слоўніка*» ў выдавецтве «Адукацыя і выхаванне» падаўся цікавым. У пэўнай ступені гэта першы такі слоўнік на беларускай мове, што можа быць цікавым само па сабе — гэта цікава і карысна як спроба, нават калі аўтарам не цалкам ўдалося рэалізаваць пастаўленую задачу.

Выданне было падрыхтаванае Васілём Шынкаровым – доктарам гістарычных навук, прафесарам кафедры паліталогіі і права Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка, а таксама Святланай Раманавай – кандыдатам сацыялагічным навук, дацэнтам кафедры эканамічнай сацыялогіі Інстытута сацыяльна-гуманітарнай адукацыі Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта. (Прынамсі такая інфармацыя была змешчаная на вокладцы.) Рэцэнзентамі выступілі дастаткова вядомыя ў беларускім акадэмічным істэблішменце асобы – дактары палітычных навук Уладзімір Мельнік і Леанід Земляков (абодва адначасова і вядомыя ідэолагі), а таксама кандыдат гістарычных навук Аляксандр Касовіч. Калектыў нельга назваць вялікім для працы такога памеру, тым большай мусіла быць адказнасць аўтараў.

Ужо першае знаёмства са слоўнікам пакінула значную колькасць пытанняў. Гэта і падбор артыкулаў і інтэрпрэтацыя асобных тэрмінаў, якія відавочна не супадалі з найбольш прынятымі, сустракаліся і факталагічныя памылкі, прычым дастаткова часта. Першае, што кідаецца ў вочы, поўная адсутнасць

крыніц інфармацыі, на якія апіраліся аўтары пры напісанні тых ці іншых артыкулаў. Згадак пра літаратуру няма ні ў тэксце, ні ў бібліяграфіі. Таксама зусім не асвятляецца пытанне крыніц ва ўводзінах – адзінае пазначаецца, што «*слоўнік падрыхтаваны ў асноўным на беларускім матэрыяле*», што не зусім адпавядае праўдзе. Можна меркаваць, што аўтары маюць дастаткова энцыклапедычныя веды, але паўстае пытанне, адкуль узятыя канцэпты і чаму з дзясяткаў вызначэнняў выбіраецца менавіта такая інтэрпрэтацыя? Усё гэта патрабавала дэталёвага і паслядоўнага аналізу, не толькі ў кантэксце крытыкі, але і меркавання пра тое, як праца ў гэтым накірунку можа працягвацца далей.

Праз пэўны час знаёмства з выданнем асобныя артыкулы прымусілі звярнуць на сябе асаблівую ўвагу. Пераважна сваімі абсалютна ненатуральнымі фармулёўкамі, частка азначэнняў падаваліся вельмі састарэлымі, а часам інфармацыя, змешчаная ў артыкулах, проста супярэчыла адна адной. З гэтага сталі ўзнікаць істотныя сумневы, якія прымусілі выйсці ў інтэрнэт і набраць некаторыя фразы ў перакладзе на рускую мову. Знайсці адпаведныя супадзенні са змешчанымі ў адкрытым доступе публікацыямі аказалася вельмі проста, праверка артыкула за артыкулам прыводзла да аднаго выніку – плагіят. Яшчэ раз адзначым, што ніводнай спасылкі на выкарыстаныя крыніцы «Беларускі палітычны слоўнік» не ўтрымлівае.

Увогуле, плагіят дастаткова пашыраная з'ява ў беларускім акадэмічным асяроддзі, многія нават не лічаць гэта праблемаю, але, хутчэй, «нормай». Сам па сабе плагіят можа мець розныя формы – часам адбываецца пераказванне чужых думак сваімі словамі без спасылак – даказаць плагіят у такіх выпадках складана, а часам гэта плагіятам у чыстым выглядзе і не з'яўляецца. У іншых выпадках ажыццяўляецца пераклад з маладаступных крыніцаў, асабліва раней была пашыраная «кампіляцыя» тэкстаў англамоўных аўтараў, што прынамсі патрабавала пэўнай кваліфікацыі. У асобных выпадках плагіят выступае як «кампіляцыя» і падсумаванне (без спасылак) лепшых матэрыялаў у межах пэўнай галіны ведаў.

Адразу пазначу, што слоўнік, які мы тут аналізуем, не адносіцца ні да аднаго з пазначаных тыпаў. Сітуацыя з ім значна горшая, і сам па сабе ён прэзентуе адзін з найменш «якасных» відаў плагіяту, які робіцца па прынцыпе лёгкай даступнасці ды выкарыстання ўсяго, што першым трапляецца пры пошуку. Гэта значыць, выкарыстоўваюцца лёгкадаступныя тэксты ці крыніцы, пераклады не робяцца з далёкіх моў і не ажыццяўляецца творчая перапрацоўка ўдалых тэкстаў з пэўнай галіны ведаў. Не праводзіцца нават простае «звядзенне» значэнняў паняткаў, таму яны могуць проста супярэчыць адзін аднаму.

На жаль, выданне, якое тут рэцэнзуецца, ёсць перакладам з рускай на беларускую розных, звычайна відавочна выпадковых, расійскіх ды савецкіх кніг, многія з якіх можна лёгка знайсці ў інтэрнэце. Пры гэтым, яшчэ

раз падкрэслім, вельмі часта выкарыстоўваюцца другасныя выданні, «запазычваюцца» зусім няўдалыя фармулёўкі, перапісваюцца памылкі і штампы. Больш за тое, сам пераклад з рускай ажыццяўляецца часам недакладна, што набліжае сітуацыю да абсурднай.

Відавочны плагіят складае ў тэксце значную частку. Дакладныя лічбы патрабуюць комплекснага аналізу, але выяўленне некалькіх дзясяткаў «запазычанняў» зойме не больш за гадзіну. І гэта тычыцца толькі таго, што можна лёгка знайсці ў вольным інтэрнэт-доступе. У прынцыпе, наяўнасць плагіяту сама па сабе ставіць выданне за межы нармальнай навуковай і навучальнай прадукцыі, але ў слоўніку шмат і іншых праблемаў, якія не дазваляюць ім карыстацца нават тым, каго з большага не хвалююць пытанні арыгінальнасці і інтэлектуальнай уласнасці.

Адразу варта пазначыць, што слоўнік перапоўнены рознымі абсалютна непатрэбнымі тэрмінамі. Вось для чаго, напрыклад, у «Беларускім палітычным слоўніку» артыкул «пагарэлец» – «*чалавек які пацярпеў у выніку пажару, у ранейшыя часы такія людзі раз'язджалі па вёсках з надзеяй атрымаць што-небудзь на пагарэлае (называліся пажарнікамі)*» (с. 289). Можна таксама прачытаць значэнне слова «аверс» — «*бок медаля ці манеты, на якім стаіць знак, што гарантуе іх сапраўднасць: дзяржаўны знак, герб, эмблема, герб ці гербавае адлюстраванне роду…*» (с. 13). Ці хто такі «адшчапенец» – «*чалавек, якія адкалоўся ад свайго грамадскага асяроддзя*» (с. 21), а таксама «шэф» – «*1) начальнік, кіраўнік; 2) аб начальніку ў адносінах да падначаленых; асоба ці арганізацыя, што прынялі шэфства над кім-, чым-небудзь*» (с. 479). І такіх тэрмінаў вельмі шмат, нават калі не падыходзіць да кампазіцыі з жорсткіх крытэрыяў навукі і дысцыпліны. Можна ў слоўніку сустрэць і многія экзатычныя азначэнні, кшталту «*прапаганда сацыялагічная*», «*законы геапалітычныя*».

Часам тэрміны выглядаюць абсалютна выпадковымі, ці, прынамсі, няпоўнымі. Напрыклад, артыкул «Дыскурс» – «*камунікатыўная з'ява, від масавае камунікацыі, арыентаванай на абмеркаванне, абгрунтаванне любых значных аспектаў дзеяння, думак і выказванняў яе ўдзельнікаў*» (с. 127). Дастаткова бессэнсоўнае азначэнне, якое абсалютна не дапаможа зразумець яго выкарыстанне ў сучаснсых сацыяльных і гуманітарных дысцыплінах.

«Новыя правыя»: «*1) рух заходнееўрапейскай інтэлігенцыі за адраджэнне еўрапейскай культуры; 2) ідэалагічны рух, у аснову якога пакладзены сінтэз ідэй рынкавага індывідуалізму і сацыяльнага аўтарытарызму*» (с. 281). Што не ёсць адэкватным. Азначэнне «маркетынгу» падаецца з Вялікай савецкай энцыклапедыі, што абсалютна не адпавядае сучаснаму азначэнню гэтага тэрміна. Шэдэўрам тут можна лічыць азначэнне «тэлуракратыі» — «*улада з дапамогай зямлі*» (с. 431). Гэта ўсё азначэнне. Як? Пра што?

Вось яшчэ прыклад грубай сэнсавай памылкі. У артыкуле «Эканамічныя правы» (меры магчымых паводзінаў)

падаецца азначэнне «эканамічнага права» (сукупнасць нормаў). У артыкуле «Асабістая ўласнасць» падаецца азначэнне ўласнасці прыватнай. Такая блытаніна назіраецца ва ўсіх падобных артыкулах.

Яшчэ больш паказальным выглядае азначэнне «дзяржаўнага права». Пасля невялікай фармулёўкі пададзена прыпіска «*у літаратуры шэрагу замежных краін выкарыстоўваецца тэрмін "канстытуцыйнае права"*» (!!!). Гэта пры тым, што менавіта тэрмін «канстытуцыйнае права» ўжо дваццаць год выкарыстоўваецца ў Беларусі, а «дзяржаўнае права» з'яўляецца савецкім архаізмам.

Выданне перапоўнена запазычаннямі з тлумачальных слоўнікаў, навошта гэта рабіць у спецыялізаваным тэрміналагічным выданні, застаецца загадкай. З некаторых азначэнняў проста немагчыма атрымаць карысныя веды. Напрыклад, «княства» падаецца як «*1) феадальная дзяржава на чале з князем; 2) назва некаторых сучасных дзяржаў*» (с. 211). Што можна даведацца з такой інфармацыі? Няма апісання па сутнасці, няма прыкладаў. Пры гэтым артыкул «Князь» адсутнічае. Слоўнік таксама утрымлівае тэрмін «султанат» – «*краіна, што ўзначальваецца султанам*» (с. 421). Часам тэрміны падаюцца зусім неадэкватна. «Вернападданы» – «*чалавек, які захоўвае вернасць свайму правіцелю*» (с. 76). Пры гэтым у выданні няма інфармацыі пра тое, што такое «падданства».

Хапае і сэнсавае няўзгодненасці. Маргінал – «*асоба ці група, якая знаходзіцца за межамі сваёй супольнасці…*» (с. 246), а маргінальная асоба (на гэтай жа старонцы ў артыкуле «Маргінальнасць палітычную») – «*прамежкавы (?! – **А. К.**), памежны чалавек, які адчувае сваё месца ў свеце толькі тады, калі належыць да якога-небудзь псеўдамасавага ініцыяванага патэстарнымі органамі руху*».

Акрамя гэтага, слоўнік утрымлівае вялікую колькасць недакладнасцяў. Памылкі ў вузкіх тэмах можна і апусціць, але аўтары маюць і відавочныя праблемы з беларускай гісторыяй. Напрыклад, БНР ў адпаведным артыкуле расшыфроўваецца як Беларуская народнага рада (??? – **А. К.**), ужо апусцім, што яна вызначаецца як «*марыянетачнае псеўдадзяржаўнае ўтварэнне, якое было абвешчана 25 сакавіка 1918 г. умеранымі беларускімі сацыялістамі ва ўмовах нямецкай акупацыі*» (с. 55). Гэта можна лічыць «дробязямі», але сярод аўтараў доктар, а сярод рэцэнзентаў кандыдат гістарычных навук.

Не лепш выглядае і старажытны перыяд. Напрыклад, пра Вітаўта можна даведацца, што гэта «*вялікі князь Літвы (?! — **А. К.**), тройчы нападаў на Маскоўскае княства (1406–1408), захапіў Смаленск, адзін з арганізатараў разгрому нямецкіх рыцараў у Грундвальдскай бітве 1410 г.*» (с. 78). І ўсё. Інфармацыя відавочна «запазычана» з нейкай расійскай ці савецкай крыніцы. У выніку Вітаўт для беларускага чытача мусіць быць вядомы толькі тым, што рабіў у дачыненні да рускай дзяржавы. Цікава, што ў артыкуле пра Грунвальдскую бітву гэты «арганізатар» увогуле не згадваецца. У слоўніку няма тэрміна «сойм», але ёсць «сейм». У якім

прывязка да Беларусі выяўляецца толькі фразаю – «*саслоўна-прадстаўнічы орган у феадальных Польшчы, Літве, Чэхіі і некаторых іншых дзяржавах Усходняй Еўропы*» (с. 390).

Маюць аўтары праблемы і пры перакладзе чужых артыкулаў з рускай на беларускую мову. Напрыклад, рускае «общность» перакладаецца як «агульнасць», а не «супольнасць» (гл. «Племя»). Можна сустрэць у слоўніку «грамадзянскае грамадства», замест «грамадзянскай супольнасці» і г. д. Хаця спалучэнне «грамадзянская супольнасць» сустракаецца ў асобных артыкулах, напрыклад у інфармацыі пра кнігу Манаева (с. 242), што яшчэ раз пацвярджае тэрміналагічную адвольнасць аўтараў.

Залежнасць ад расійскага «цэнтру» праяўляецца і ў тым, што транслітарацыя на ангельскую мову ўсіх беларускіх імёнаў і геаграфічных назваў падаецца выключна з рускай – М. Багдановіч, натуральна, будзе Bogdanovich. Гэта правіла перакладаць «с нормального языка» закранула нават імёны з устойлівай традыцыяй падачы на лацінцы. Напрыклад, Баршчэўскі *(Barszczewski)* – падаецца *як* Borshevskiy, Міцкевіч як Mitskevich і г. д. Хаця гэта, на тле іншага, выглядае дробяззю.

На жаль, падсумоўваючы разгляд, можна настойліва не рэкамендаваць «Беларускі палітычны слоўнік» для выкарыстання ў навуковым працэсе (не кажучы ўжо пра прафесійную дзейнасць). Пытанне нават не ў плагіяце, якім шчыльна напоўненае гэтае выданне, але і ў шматлікіх памылках, бессэнсоўных азначэннях і выпадковых інтэрпрэтацыях, якія не толькі не дапамогуць зразумець асноўныя катэгорыі палітычнай навукі, але толькі заблытаюць.

Напэўна, самае горшае, што вынікае з выхаду гэтага выдання, – яно падмацоўвае стэрэатып другаснасці і правінцыйнасці беларускай навучальнай літаратуры па сацыяльных дысцыплінах. Дыскусія, якая разгарнулася па выніках публікацыі скарочанай версіі гэтай рэцэнзіі ў інтэрнэце, выявіла вельмі розную стратэгію апраўдання аўтараў слоўніка. У тым ліку, што гэта першая такая спроба нешта выдаць на беларускай мове. Напэўна, захаванне уплываў такіх ідэй уяўляе найбольшую праблему. Ацэнка, відавочна, мусіць сыходзіць з якасці тэксту незалежна ад таго, на якой мове ён напісаны. І беларуская мова тут ужо даўно не выключэнне.

**Пяць характэрных прыкладаў «запазычванняў» з розных частак слоўніка:**

1. У слоўніку: «*Крызіс валютны – абвастрэнне супярэчнасцей у валютнай сферы, якое праяўляецца ў рэзкім хістанні валютных курсаў, плацежнай незбалансаванасці, перамяшчэннях пазыковага капіталу. Валютны крызіс суправаджаецца ўзмацненнем дзяржаўнага ўмяшання ў форме дэвальвацыі і рэвальвацыі, увядзеннем валютных абмежаванняў, правядзеннем мерапрыемстваў агульнаэканамічнага характару*».

Крыніца: *«Валютный кризис – обострение противоречий в валютной сфере, проявляющееся в резких колебаниях валютных курсов, несбалансированности платежных балансов, перемещениях ссудного капитала. Валютный кризис сопровождается усилением государственного вмешательства в форме девальваций и ревальваций, введением валютных ограничений, проведением мероприятий общеэкономического характера».*

Большой Энциклопедический словарь. 2000.

http://dic.academic.ru/dic.nsf/politology/532/%D0%92%D0%B0%D0%BB%D1%8E%D1%82%D0%BD%D1%8B%D0%B9

2. У слоўніку: *«Маргінальнасць палітычная – сацыяльная якасць сумлення і паводзін асобы, пласта, субгрупы; адрыў ад першапачатковага сацыяльнага субстрату, заканчэнне грамадскіх сувязяў, якія вызначаюць сутнасць асобы і групы, а таксама прынцыповая немагчымасць узнаўлення такіх інтэграцыйных сувязей. Маргінальная асоба – прамежкавы, памежны чалавек, які адчувае сваё месца ў свеце толькі тады, калі належыць да якога-небудзь псеўдамасавага, ініцыяванага патэстарнымі органамі руху».*

   Крыніца: *«Маргинальность Политическая (от лат. margo – край) – термин, употребляемый для обозначения социального качества сознания и поведения личности, слоя, субгруппы. М. означает отрыв от первоначального социального субстрата, прекращение общественных связей, определяющих сущность личности и группы, а также принципиальную невозможность возобновления подобных интеграционных связей. Маргинальная личность – промежуточный, пограничный человек, который ощущает свое место в мире, лишь принадлежа к какому-либо псевдомассовому, инициированному потестарными органами, движению».*

   Мир словарей. http://mirslovarei.com/content_pol/marginalnost-politicheskaja-1203.html

3. У слоўніку: *«Рэгіяналізм – падыход да разгляду і рашэння эканамічных, палітычных і іншых праблем з пункту гледжання інтарэсаў і патрэб таго ці іншага рэгіёну».*

   Крыніца: *«Регионализм – подход к рассмотрению и решению экономических, социальных, политических и других проблем под углом зрения интересов потребителей того или иного региона».*

   Райзберг, Б. А., Лозовский, Л. Ш., Стародубцева, Е. Б. Современный экономический словарь. – 2-е изд., испр. М.: ИНФРА-М, 1999. 479 с.

   http://dic.academic.ru/dic.nsf/econ_dict/12414

4. У слоўніку: *«Рэгіяналізацыя – развіццё, умацаванне эканамічных, палітычных і іншых сувязяў паміж абласцямі і дзяржавамі, што ўваходзяць у адзін рэгіён, узнікненне рэгіянальных аб'яднанняў дзяржаў».*

   Крыніца: *«Регионализация – развитие, укрепление экономических, политических и иных связей между областями или государствами, входящими в один регион; возникновение региональных объединений государств».*

Райзберг, Б. А., Лозовский, Л. Ш., Стародубцева, Е. Б. Современный экономический словарь. – 2-е изд., испр. М.: ИНФРА-М, 1999. 1999. 479 с.

http://dic.academic.ru/dic.nsf/efremova/237679/%D0%A0%D0%B5%D0%B3%D0%B8%D0%BE%D0%BD%D0%B0%D0%BB%D0%B8%D0%B7%D0%B0%D1%86%D0%B8%D1%8F

5. У слоўніку: «*Татальная вайна – канцэпцыя падрыхтоўкі і вядзення агрэсіўнай вайны з прымяненнем любых сродкаў і спосабаў масавага знішчэння ўзброенай сілы і мірнага насельніцтва супрацьлеглага боку. Канцэпцыя «татальнай вайны» упершыню была вылучана нямецкім генералам Э. Людэндорфам у 1935 г., лягла ў аснову фашысцкай ваеннай дактрыны*».

Крыніца: «*Тотальная война – концепция подготовки и ведения агрессивной войны с применением любых средств и способов массового уничтожения вооруженных сил и мирного населения противника. Концепция "тотальной войны" впервые выдвинута немецким генералом Э. Людендорфом в 1935 г., легла в основу фашистской военной доктрины*».

Политическая наука: Словарь-справочник. сост. проф. пол. наук Санжаревский, И. И. 2010

http://dic.academic.ru/dic.nsf/politology/2889/%D0%A2%D0%BE%D1%82%D0%B0%D0%BB%D1%8C%D0%BD%D0%B0%D1%8F